*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*
*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2021, № 1(60). Студзень

# Альбярцін у першай палове 1830-х гадоў




*Працяг на ст. 2*

# Забыты слонімскі знахар Тэадор Ярмаловіч

Знакаміты польскі мастацкі фільм Ежы Гофмана “Знахар” (1982) бачылі многія слонімцы. Падзеі рамана Тадэвуша Даленга-Мастовіча, па якім ён быў зняты, адбываюцца ў міжваеннай Заходняй Беларусі. Таленавіты хірург Рафал Вільчур перажыў асабістую драму і страціў памяць, вандраваў па краіне, стаў вясковым знахарам Антоніем Касібам… Пэўныя паралелі з гэтай гісторыяй прасочваюцца ў падзеях, якія адбыліся на Слонімшчыне ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

*Працяг на ст. 3*



*Кадр з фільма Ежы Гофмана “Знахар”*

# Альбярцін у першай палове 1830-х гадоў

*Працяг, пачатак на ст.1.*

У калекцыі польскай графікі ў Нацыянальным музеі ў Варшаве (Muzeum Narodowe w Warszawie) захоўваецца гравюра, пазначаная 1835 годам. Пад ёй напісана "Albertyn". Аўтарам гравюры пазначаны графік Антоні Алешчыньскі (Antoni Oleszczyński, 1794 — 1879, на здымку).* Альбом з малюнкам быў знойдзены ў Парыжы, дзе памёр мастак.

У 1835 годзе Алешчыньскі быў у сталіцы Францыі і ўжо там выканаў згаданую гравюру. Відаць, па ранейшых сваіх малюнках. Вядома, што назва "Альбярцін" з'явілася ў 1833-м, калі Уладзіслаў Пуслоўскі надаў яе ў гонар памерлага бацькі Войцеха Пуслоўскага. Апошні шанаваў святога Войцеха, які меў другое імя Адальберт (Альберт).** Напэўна, у 1833-1835 гадах Алешчыньскі і пабываў на Слонімшчыне ў Пуслоўскага.

Будзем спадзявацца, што мастак дакладна зафіксаваў усе тагачасныя жылыя, прамысловыя і гаспадарчыя будынкі Пуслоўскага. Гравюра Антоні Алешчыньскага дазваляе нам пабачыць, якім быў Альбярцін амаль 200 гадоў таму. Відаць, гэта самая ранняя яго выява.



●СЁ

*Muzeum Narodowe w Warszawie / https://cyfrowe.mnw.art.pl/pl/katalog/710315*

***СЁ. Уладзіслаў Пуслоўскі // Слонімскі край, 2020, № 3(49). Люты. С. 7-8.*

# Арганны майстар з Польшчы ў Слоніме

Паэт і краязнаўца Уладзіслаў Сыракомля ў другім томе сваёй кнігі *"Wycieczki po Litwie w promieniach od Wilna"* (Wilno, 1857) згадваў арганнага майстра з Польскага каралеўства Станіслава Длужэўскага, які ў 1856 годзе пабудаваў і настроіў арган у касцёле ў Дукштах пад Вільняй. Длужэўскі меў майстэрню ў Ломжы ў цяперашнім Падляскім ваяводстве. Некаторыя арганы яго працы захаваліся да нашага часу. Высвятляецца, што майстар нейкі час жыў у Слоніме.

У студзені 1863 года ў газеце *"Виленскій вѣстник"* ("Kuryer Wileński") была апублікавана карэспандэнцыя з Навагрудка пра заканчэнне працаў па настройцы аргана ў мясцовым касцёле.* Згадваўся майстар Длужэўскі, які *"быў калісьці ў Вільні, а цяпер жыве ў Слоніме"*, і *"добрасумленна выканаў свае абавязкі"*. Відаць, гаворка пра фарны касцёл у Навагрудку. Рэшткі згаданага аргана яшчэ былі зафіксаваны ў пачатку XX стагоддзя.**

Відавочна, што ў Слоніме Станіслаў Длужэўскі апынуўся невыпадкова. Ён мог працаваць над арганам у адным з мясцовых касцёлаў.

●СЁ

**Виленскій вѣстник ("Kuryer Wileński"), 1863, № 7, 25 студзеня.*

***Навагрудак, фарны касцёл // http://argany.by*

# Забыты слонімскі знахар Тэадор Ярмаловіч

*Працяг, пачатак на ст.1*

27 верасня 1860-га газета *"Виленскій вѣстник"* ("Kuryer Wileński") апублікавала ліст, напісаны ў Слоніме 31 ліпеня таго ж года. Яго аўтар схаваўся пад псеўданімам Syxtus. Гэта быў чалавек мясцовы, які ведаў гісторыю горада, пісаў пра яго 800-гадовую гісторыю. Большая частка тэксту прысвечана нашаму земляку Тэадору (ці Тодару, Хведару, Фёдару) Ярмаловічу (Teodor Jarmołowicz, Teodorek). Высвятляецца, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя гэта быў знакаміты на Слонімшчыне знахар. У Ярмаловіча была медыцынская адукацыя, ён скончыў Віленскі ўніверсітэт!

Працытуем частку ліста слонімца, якая прысвячаецца Тэадору Ярмаловічу. Аўтар пісаў яго праз некалькі дзён пасля візіту ў наш горад віленскага каталіцкага біскупа Адама Станіслава Красінскага:

"Гэты памятны візіт біскупа быў своеасаблівым бальзамам суцяшэння для большасці жыхароў Слонімскага павета пасля страты незабыўнага Лекара-хрысціяніна Тэадора Ярмаловіча. Ён быў настолькі рэдкім чалавекам у сваёй прафесіі, такі дабрачынца для бедных, такі давер абуджаў сваім абыходжаннем, правільным лячэннем у багацейшых, а таксама сваёй сціпласцю і поўнай непамятлівасцю ўласных інтарэсаў, настолькі ўсеагульнай пашаны да сябе здабыў, што немагчыма не пачуць агульны голас усіх жыхароў ваколіцаў Слоніма, якія прысвяцілі колькі слоў хвалы і шкадавання перад яго памяццю.

Каля 1843 года ў адным з



KORESPONDENCJA
KURYERA WILEŃSKIEGO.
Słonim 31 Lipca 1860 r.
Miasto nasze, którego ośmiowiekowy byt uznany jest przez wszystkich krajowych dziejopisów, przy końcu trzynastego stulecia już gród stołeczny dzielnicy książęcia litewskiego

вясковых дамоў з'явіўся дзядок невысокага росту, сціплых паводзін і выключна добра выхаваны, які з задавальненнем лячыў хворых сялян і не браў за гэта ніякага ўзнагароджання. Неўзабаве ён звярнуў на сябе ўвагу мясцовых жыхароў. Асабліва паспяхова яму ўдавалася ратаваць дзяцей, што так цяжка даецца нават самым дасведчаным лекарам. Неўзабаве пагалоска пра яго ўдалыя справы, яго нястомную гатоўнасць дапамагчы кожнаму і ў любы час, як лясны пажар, распаўсюдзілася ў ваколіцах Слоніма. Адна справа толькі турбавала больш заможных — ён ніколі не хацеў узяць найменшай аплаты за сваю працу, што, у сваю чаргу, стала найбольшым дабром для бедных, якія не мелі магчымасці аплаціць працу лекараў са Слоніма.

Так Тэадорэк, бо так яго звычайна называлі, неўзабаве стаў найлепшым дарадцам у хваробах у многіх мясцовых сем'яў і сапраўдным дабрачынцам бедных сялян. Самі слонімскія лекары, упэўненыя ў яго дасведчанасці ў медыцыне і паспяховым лячэнні хваробаў, з пахвальнай высакароднасцю, не стваралі яму ніякіх юрыдычных перашкодаў у дабрачыннай практыцы, на што ён не меў афіцыйнага дазволу. Такім чынам Тэадорэк свабодна рэалізоўваў сваю высакародную схільнасць даваць парады і дапамагаць пакутуючаму жыхарству. Гатовы адгукнуцца на любы зварот, нягледзячы на старасць, як зімой, так і летам, незалежна ад неспрыяльных умоў надвор'я, ён удзень і ўночы хадзіў ад дома да дома, ад халупы да хаты, несучы карысныя парады і дапамогу тым, хто прасіў пра выратаванне.

Шчаслівы быў той з абавязаных яму пацыентаў, якому ўдалося нейкім хітрым прыёмам замяніць яму старое адзенне на новае. І ўсё ж на твары гэтага незвычайнага чалавека, які знайшоў найвышэйшую ўзнагароду за свае дабрадзейныя ўчынкі ў спакоі і задаволенасці ўласнага сумлення, быў відаць нейкі схаваны сум… Адзін у свеце, без сям'і і апекуноў, але прынцыпова набожны, у малітве ён толькі знаходзіў суцяшэнне, у адзіноце і адпачынку пасля цяжкасцяў добраахвотнага свайго паклікання. А потым, мала каму было вядома, як яму давялося змагацца з жыццёвымі нягодамі, і ён знайшоў сяброў, якія яму падалі руку ў цяжкі момант. Да канца сваіх дзён ён захоўваў ласкавую і нязменную падзяку. У рэшце рэшт, усё гэта жыццё, такое дабрадзейнае і карыснае для навакольных, заўсёды хавалася, хаця б часткова, нейкай

# Забыты слонімскі знахар Тэадор Ярмаловіч


№ 76. ВТОРНИКЪ, 27 СЕНТЯБРЯ. 1860. WTOREK, 27 WRZEŚNIA. № 76.

ВИЛЕНСКІЙ ВѢСТНИКЪ

KURYER WILEŃSKI

таямнічай заслонай, якую цалкам нельга было падняць. Людзі нават здзіўляліся, як Тэадорэк, не будучы лекарам, настолькі валодаў медыцынай, не звяртаючыся ні да якіх цудадзейных лекаў, ні да якога шарлатанства? Толькі яго смерць дазволіла загаварыць абазнаным у яго жыцці, і, магчыма, недакладна, раскрыць тое, што было схавана ці малавядома ў дзейнасці гэтага лекара-Хрысціяніна.

Тэадор Ярмаловіч нарадзіўся праўдападобна больш за семдзесят гадоў таму ў Борку, вёсцы, якая належала да ордэну Базыльянаў-Жыровіцкіх. Селянін, але праявіў у раннім узросце свае рэдкія здольнасці, быў адданы ў мясцовыя школы, пасля заканчэння якіх накіраваны ў Віленскі ўніверсітэт для вывучэння медыцыны.

Але калі там, ужо з вялікай стараннасцю і карысцю прайшоў курс гэтай навукі ў чатырох класах, ён мусіў рэалізаваць свае гарачыя пажаданні і завяршыць карпатлівую працу з доктарскай шапкай. Дзіўная справа! Суполка, якой падлягаў, насуперак выдатным вынікам у навучанні і ўзорнай школе, вырашыла, што Тэадорэк будзе больш карысны для сялян кляштoрных, як вясковы фельчар, чым як лекар вольнапрактыкуючы. Такім чынам, ён быў стрыманы ў сваіх выдатных здольнасцях, яму давялося міжволі спыніцца ў тым сціплым становішчы, на якое яго паставілі тыя, што мелі над ім уладу. Ён быў фельчарам, а пасля яму было даручана кіраваць аптэкай у Жыровічах, якую ён найбольш карысна арганізаваў і падтрымліваў. У яго была калісьці добра сфармаваная тэарэтычная аснова, да яе дадаўся вялікі досвед з хірургіі і фармацэўтыкі.

Змена становішча ордэну Базыльянаў Жыровіцкіх выдаліла Тэадорэка з месца яго папярэдняга знаходжання. З гэтага часу ён стаў амаль вандроўнікам, і, перажываючы цяжкія нягоды, упаў у меланхолію, ад якой толькі добразычлівы клопат сябра здолеў яго выратаваць. Падчас гэтых цяжкіх выпрабаванняў Тэадор Ярмаловіч пазбавіўся мізэрнай маёмасці, якую меў, але не страціў сваю філасофію хрысціянскую, якая пасяліліся ў яго сумленным сэрцы, адначасова з павелічэннем перашкодаў на шляху, што яму Провід даў адбыць на гэтай зямлі.

Яго раптоўная смерць надышла 22 ліпеня ў вёсцы Бярдовічы, у якой дзядок любіў у апошнія гады найчасцей знаходзіцца. Да самай смерці ён не адышоў ад абранага ім дабрачыннага паклікання. Напярэдадні смерці яго ўсё яшчэ прымалі ў суседнім доме, і атрымалі яго дабратворную дапамогу пры хваробе. Тэадор Ярмаловіч, адчуўшы свой апошні момант, маліўся ў гэты дзень даўжэй, чым звычайна, хаця сілы яго яшчэ не пакідалі.

Голас усеагульнага смутку на вестку пра смерць гэтага дабрадзейнага і добразычлівага чалавека быў пачуты ва ўсіх ваколіцах Слоніма. Нашы грамадзяне, якія найбольш адчувалі яго парады і дапамогу, вырашылі ўшанаваць яго памяць, усталяваўшы помнік на могілках у Бярдовічах, дзе былі пахаваны астанкі лекара-Хрысціяніна".

Пад "зменай становішча" базыльянаў у Жыровічах маюцца на ўвазе падзеі, звязаныя са скасаваннем Уніі ў Расійскай імперыі ў 1839-м. Манастыр стаў праваслаўным, манахаў, якія не перайшлі ў праваслаўе, павысылалі з Жыровічаў. Відаць, новым уладам стаў непатрэбны і фельчар Ярмаловіч (дарэчы, вельмі цікавая згадка пра аптэку, якой ён кіраваў). Гэта было чарговае выпрабаванне на яго жыццёвым шляху. Усе звыклыя жыццёвыя асновы абрынуліся. Цяжка ўявіць, што перажыў тады наш зямляк…

Дзе ж нарадзіўся Тэадор Ярмаловіч? У публікацыі ці пададзена скажоная назва вёскі Баравікі, якая сапраўды належала да Жыровіцкага базыльянскага манастыра, ці маюцца на ўвазе Боркі, якія ўваходзілі ў Слонімскі павет, а цяпер у складзе Івацэвіцкага раёна. Гэта яшчэ трэба высветліць. Як і трэба пашукаць магілу Ярмаловіча на могілках у Бярдовічах. Магчыма, яму сапраўды паставілі помнік.

Падрыхтаваў ●Сяргей Ёрш

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), № 2(24), № 6(28), № 7(29) 2018 г., № 5(39), № 7(41) 2019 г., № 5(51), № 6(52), № 7(53), № 8(54), № 9(55), №11(57), №12(58), № 13(59) 2020 г.*

1937

У канцы красавіка 1937 года слонімскія заўзятары пачалі турбавацца за мясцовы футбол, бо сезон не пачынаўся. У польскамоўным "Навагрудскім кур'еры" нават з'явілася зацемка "Калі старт футбольнага сезону". *"Прыкра нам сцверджваць, што ўжо ў мінулым годзе футбольная каманда "Стралец" урэшце рэшт скончыла сваё некалі слаўнае жыццё,* — пісаў яе ананімны аўтар. — *Гэтая каманда, якая выглядала так спартыўна, была любімая і папулярная ў спартыўных сферах, з-за адсутнасці капітана прапускала спачатку трэніроўкі, пасля паддалася стану апатыі, аж наступіў крах. А шкада. Сёння, па-за польскай вайсковай камандай "В.К.С.", няма больш польскіх футбольных камандаў у Слоніме. Чаму? Сорамна перад Альбярцінам, бо там каманда ёсць".*[1]

Аўтар заклікаў ад імя "ўсяго спартыўнага Слоніма", ад "старога Слоніма" зноў стварыць каманду, якой можна было б ганарыцца, як раней ганарыліся "Стральцом". Таксама ён быў заклапочаны сітуацыяй з адкрыццём футбольнага сезону. *"Хто з кім і калі?* — пісаў журналіст. — *З кім В.К.С. згуляе матч адкрыцця? Ці можна было б запрасіць каманду дзесьці з Баранавічаў ці Ваўкавыска?".*

Яўрэйскія каманды, у тым ліку і Makabi, у разлік не браліся, яны лічыліся слабымі і "неспартыўнымі". У апошнім выпадку згадваліся канфлікты падчас матчаў на гарадскім стадыёне ў мінулым сезоне.



Ужо ў наступным нумары газеты ў зацемцы пра падрыхтоўку святкавання польскага дзяржаўнага свята на гарадскім стадыёне паведамлялася: *"У стадыі арганізацыі знаходзіцца футбольная каманда".*[2] Зразумела, што гаворка ішла пра польскую дружыну. Праз некалькі нумароў з'яўляецца навіна з загалоўкам "Каманда "Стральца" існуе".[3] *"Прыемна нам сцвердзіць, што футбольная каманда "Стральца", пра якую няпэўна мы пісалі, надалей існуе і працуе,* — пісаў карэспандэнт. — *Трэніроўкі адбываюцца штодзённа і неўзабаве "Стралец" выступіць на спаборніцтвах футбольных".*

А пакуль футбольныя матчы не пачаліся, на гарадскім стадыёне наводзілі парадак. У прыватнасці, адрамантавалі агароджу, каб выключыць выпадкі патраплення на платныя спартыўныя мерапрыемствы без квітка.[4] У наступнай публікацыі згадваліся значныя сродкі, якія пайшлі на рамонт, а іх маглі б пусціць на іншыя мэты. Ды наракалі на падлеткаў, якія *"скарачаюць шлях на стадыён",* пералазяць праз агароджу і псуюць сетку не толькі падчас платных матчаў (а для моладзі была мінімальная аплата), але і падчас трэніровак, калі ўваход вольны і ўсе брамы адчынены.[5] Гэтая праблема існавала і ў мінулыя гады, і яе не змаглі вырашыць.

У сярэдзіне траўня з'явіўся артыкул пра праблему ў спартыўным жыцці Слоніма. Адзначаўся спад на 50% у 1932-1935 гады, нягледзячы на тое, што становіцца больш спартыўных інструктараў, праводзяцца спартыўныя канферэнцыі. А на гарадскім стадыёне ганяюць мяч аматары, якія так бавяць час. А моладзь *"не можа стварыць ніводнай футбольнай каманды".* Згадваліся вайскоўцы, якія стабільна займаюцца спортам на добрым узроўні. *"Але яны не бяруцца ў разлік, бо гэта наплывовыя людзі — пасля службы вяртаюцца на сваю далёкую малую радзіму",* — пісаў аўтар зацемкі. Але адзначаў, што

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак на ст. 5*

вайсковая моладзь *"уносіць да нас здаровы спартыўны элемент і трохі ажыўляе… Слонім, за што мы ўдзячны"*.[6]

Футбольны сезон быў распачаты ў сярэдзіне траўня 1937-га. Першы матч правялі яўрэйскія каманды Nordyja і Jutrznia. Апошняя перамагла з лікам 3:0. Мясцовы карэспандэнт польскамоўнага "Навагрудскага кур'ера" падкрэслена грэбліва піша пра яўрэйскіх футбалістаў, называе іх каманды "партыйнымі". Ён адзначае, што "вымушана" называе згаданы паядынак адкрыццём футбольнага сезону. А гульня футбалістаў была "ніжэй крытыкі". У другім матчы сустрэліся дзве каманды з аднолькавай назвай Nordyja — са Слоніма і з Баранавічаў. Госці выйгралі — 4:1.

*"Калі, нарэшце, будзе адкрыццё футбольнага сезону, пра які мы марым, мы, старэйшая генерацыя польскіх спартсменаў у Слоніме? —* пісаў усё той жа карэспандэнт. *— Дзе ж "Стральцы", В. К. С., Альбертынянка?"*.[7]



●Сяргей Ёрш

Працяг у наступных нумарах


*[1] Kurjer Nowogródzki, 1937, № 108, 21 красавіка.*

*[2] Kurjer Nowogródzki, 1937, № 109, 22 красавіка.*

*[3] Kurjer Nowogródzki, 1937, № 115, 28 красавіка.*

*[4] Тамсама.*

*[5] Kurjer Nowogródzki, 1937, № 118, 1 траўня.*

*[6] Kurjer Nowogródzki, 1937, № 130, 13 траўня.*

*[7] Kurjer Nowogródzki, 1937, № 138, 21 траўня.*




*Восенню 2020-га ў Альбярціне па вуліцы Паркавая ліквідавалі занядбаны стадыён. Скрыншот з відэа slonim_live*

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Генерал Казімір Малахоўскі

У польскіх крыніцах, у тым ліку і ў польскамоўнай Вікіпедыі можна знайсці згадку пра генерала Казіміра Малахоўскага, які нарадзіўся на Слонімшчыне. Ці сапраўды ён наш зямляк? Бо згадак пра яго няма ў працах мясцовых даследчыкаў. Малахоўскі адсутнічае ў пераліку слонімскіх генералаў.

Сцвярджаецца, што Казімір Малахоўскі нарадзіўся 24 лютага 1765 года *"ў Вішневе к*[аля] *Слоніма"*.[1] Адразу ж узнікла думка, што гаворка пра Вішава ў Слонімскім раёне. А вось аўтары польскамоўных артыкулаў былі збянтэжаныя, бо не змаглі адшукаць "Вішнева" на Слонімшчыне, і шукалі ў іншых раёнах... Дарэчы, на помніку генерала на яго магіле ў Францыі напісана, што ён нарадзіўся ў Вішневе ў Літве г. зн. у ВКЛ. Магчыма, розныя польскія даведнікі і ўзялі такі варыянт назвы маёнтка з надпісу на помніку.

Усе сумненні наконт месца нараджэння Малахоўскага дапамагла зняць даследчыца Святлана Брайчук. Яна адшукала некалькі цікавых публікацый. Сярод іх — кніга біяграфій удзельнікаў вайны за незалежнасць Польшчы Юзафа Страшэвіча, якая выйшла ў 1833 годзе.[2] З яе даведваемся, што будучы генерал нарадзіўся 24 лютага 1765 года ў Наваградскім ваяводстве ў сям'і Станіслава Косткі Малахоўскага і Марыяны Камінскай. Дакладнае месца нараджэння не пазначана, але далей паведамляецца, што ён вучыўся ў Слоніме ў езуіцкай школе, а далей — у базыльянскай школе ў Жыровічах.[3] Брайчук адшукала і артыкул беларускага гісторыка Віталя



*Казімір Малахоўскі*

Крывуця, апублікаваны ў 2013 годзе ў расійскім гістарычным часопісе *"Родина"*.[4] У ім аўтар піша: *"Казімір Малахоўскі,* шляхецк*ага герба "Грыф", нарадзіўся… ў вёсцы Вішава… цяпер гэта Дзераўноўскі сельскі савет Слонімскага раёна"*. Крывуць, рыхтуючы артыкул пра Малахоўскага, вывучыў усе даступныя крыніцы, і сумненняў у яго наконт месца нараджэння не было. Ён называе Малахоўскага "апалячаным шляхціцам з-пад Слоніма".

Біяграфія Казіміра Малахоўскага можа стаць сюжэтам для мастацкага фільма. Ужо ў юнацтве ён вырашыў звязаць свой лёс з вайсковай кар'ерай і паехаў са Слонімшчыны ў сталіцу Рэчы Паспалітай — у Варшаву. Там ён скончыў Каралеўскую артылерыйскую і інжынерную школу. З 1784 года — на вайсковай службе.

Напярэдадні другога раздзелу Рэчы Паспалітай Малахоўскі на тэрыторыі ВКЛ удзельнічаў у баях з рускімі войскамі. Пасля было вызваленчае паўстанне пад кіраўніцтвам яшчэ аднаго нашага земляка Тадэвуша Касцюшкі. У 1794-м менавіта Касцюшка спачатку зрабіў артылерыста Казіміра Малахоўскага капітанам, а пасля і маёрам. Ён паказаў сябе адважным і здольным камандзірам у бітве пад Рацлавіцамі.

Пасля падаўлення паўстання

*Працяг на ст. 8*

# Генерал Казімір Малахоўскі

*Працяг, пачатак на ст. 7*

рускімі войскамі Малахоўскі з'ехаў з Рэчы Паспалітай, якую чакаў трэці падзел. Ён служыў у польскіх легіёнах французскай арміі Напалеона, ваяваў на чужыне ў спадзяванні на хуткае вяртанне на радзіму. Трапіў у аўстрыйскі палон, ваяваў на Гаіці на баку французаў, апынуўся ў англійскім палоне на Ямайцы. Далей было вяртанне ў Францыю праз ЗША і працяг службы, новыя бітвы. Казімір Малахоўскі стаў падпалкоўнікам, а пасля і палкоўнікам. Ён удзельнічаў у стварэнні арміі Герцагства Варшаўскага, быў адзначаны кавалерскім крыжам ордэну Віртуці Мілітары. У 1810 годзе ажаніўся.[5]

У 1812-м Малахоўскі стаў брыгадным генералам, адзначыўся на Бярэзіне, дзе прыкрываў пераправу рэштkаў арміі Напалеона. У кастрычніку 1813 года ён удзельнічаў у "Бітве народаў" пад Лейпцыгам, трапіў там у рускі палон. Але ўжо ў 1815 годзе яго прызначылі камендантам крэпасці Модлін у 30 кіламетрах ад Варшавы. Слонімец праслужыў яшчэ тры гады і пайшоў у адстаўку.

Падчас вызваленчага паўстання 1830-1831 гадоў ужо ў сталым узросце Казімір Малахоўскі ўзяў у ім актыўны ўдзел. У бітвах дэманстраваў "юнацкі энтузіязм" і "незвычайную адвагу". Малахоўскага з павагай называлі "напалеонаўскім жаўнерам". У верасні 1831-га некалькі дзён ён быў галоўнакамандуючым (перадапошнім). Пасля паражэння паўстання ў чарговы раз генерал быў вымушаны з'ехаць за мяжу.

Казімір Малахоўскі памёр 5 студзеня 1845 года і пахаваны ў горадзе Шанцілйі на поўначы Францыі. Падлічана, што за сваю кар'еру ён паўдзельнічаў у паўсотні бітваў. Варта было б ушанаваць памяць пра земляка, які пакінуў заўважны след у гісторыі.

●Генадзь Гурскі



TADEUSZ
KOSCIUSZKO
NACZELNIK NAYWYŻSZY SIŁY ZBROYNEY
NARODOWEY

Oznaymuię ninieyszym Listem Patentem Moim, komu o tym wiedzieć należy. Iż ja maiąc sobie zaleconą dobrą [illegible] i [illegible] do służby Woyskowey Obywatela [illegible]

a chcąc go do dalszych Rzeczypospolitey zachęcić usług, uczyniłem mu Szarżę [illegible] dać i konferować; iakoż ninieyszym Listem Patentem Moim z należącemi do niey według opisu i ustawy Rzeczypospolitey pensiami, tudzież ze wszystkiemi prerogatywami [illegible] praktykowanemi, aż do śmierci lub postąpienia na wyższą Szarżę Woyskową daię i konferuię. Co [illegible] Generałom, oraz wszystkim wyższey i niższey Rangi Officierom a osobliwie [illegible] wiadomo czyniąc rozkazuię, aby pomienionemu Obywatelowi [illegible] w rzeczonym Korpusie Szarżę [illegible] maiącemu z mieysca i Praw do tego Stopnia przyłączonych odpowiadali, i aby od innych odpowiadano było starali się. Na co dla lepszey wiary Ręką własną podpisawszy, Pieczęcią związku Narodowego zatwierdzam Dan w [illegible] Dnia [illegible] Miesiąca [illegible] 179[illegible] Roku

T. Kościuszko

WOLNOŚĆ
CAŁOŚĆ

*Намінацыя аб наданні Казіміру Малахоўскаму звання маёра, падпісаная Тадэвушам Касцюшкам / dziennikpolski24.pl*


[1] *https://pl.wikipedia.org/wiki/Kazimierz_Ma%C5%82achowski*

*[2] Straszewicz G. Ossia biografia dei personaggi che hanno figurato nell'ultima guerra dell'Indipendenza Polacca. — Capolago, 1833.*

*[3] Тамсама. С. 461.*

*[4] Кривуть В. Казимир Малаховский: судьба на фоне 50 сражений // Родина, 2013, № 11. С. 76-78.*

*[5] Mowa pogrzebowa na cześć ś. p. generała Kazimierza Małachowskiego zmarłego w Bogu w Chantilly na dniu 5 stycznia pogrzebanego tamże 8 t. m. 1845 roku powiedziana w kościele ś. Rocha w Paryżu przez x. Hieronima Kajsiewicza podczas obchodu żałobnego odbytego staraniem rodaków na dniu 15 stycznia tegoż m. i r. — Paryż, 1845. C. 13.*





MOWA POGRZEBOWA

NA CZEŚĆ Ś. P. GENERAŁA

KAZIMIERZA MAŁACHOWSKIEGO

PARYZ

W KSIĘGARNI KATOLICKIEJ POLSKIEJ




# Як рэкламавалі Слонімшчыну ў 1930-я гады

Cena 20 gr.

Rok II. Nowogródek, styczeń - luty 1935 r. Nr. 1 (3)

W NOWOGRÓDZKIEJ STRONIE



BIULETYN TURYSTYCZNO-INFORMACYJNY.

WYCHODZI PERJODYCZNIE.

Przedruk dozwolony z podaniem źródła.

**Numer niniejszy zawiera artykuły:** 1. ZWIĄZKI PROPAGANDY TURYSTYCZNEJ A POLSKIE T-wa KRAJOZNAWCZE. 2. SPORT NARCIARSKI W NOWOGRÓDCZYŹNIE. 3. TAM, GDZIE LEGJONY STAŁY (BARANOWICZE I NAJBLIŻSZA OKOLICA). 4. WSZYSTKO DLA TURYSTY. 5. NOWOGRÓDZKIE STRONY 6. LIDA I OKOLICE. 7. ZABYTKI SŁONIMSZCZYZNY. 8. WIADOMOŚCI RÓŻNE.

У 1935 годзе ў перыядычным выданні Саюзу турыстычнай прапаганды Навагрудскай зямлі[1] *“W Nowogródzkiej Stronie: biuletyn turystyczno-informacyjny”* была серыя матэрыялаў “Помнікі Слонімшчыны”. Яны падпісаныя “Hel”. Пісала іх сама рэдактарка Helena Larouy.

У № 1(3) за 1935 год быў нарыс пра Дзярэчын і Дзятлава, якія ў той час уваходзілі ў склад Слонімскага павета.[2] У наступным нумары пісалі пра Быцень і Жыровічы.[3] У артыкулах выкладаліся вядомыя звесткі пра іх гісторыю, храмы, Жыровіцкую ікону Божай Маці. Таксама публікавалася карта “Турыстычныя шляхі Навагрудскага ваяводства”, а на ёй прысутнічае і Слонімшчына.[4]

Саюз турыстычнай прапаганды Навагрудскай зямлі існаваў з 1934-га (у канцы гэтага года ваявода зацвердзіў яго статут), абапіраўся на ўладныя структуры на месцах. У Слоніме яго прадстаўляў інжынер Аляксандр Сахацкі, які працаваў у павятовым аддзеле.[5] Арганізоўваліся турыстычныя маршруты, наладжвалася супрацоўніцтва з сябрамі Польскага краязнаўчага таварыства. Апошнія, дарэчы, ужо даўно займаліся падобнай дзейнасцю — арганізоўвалі вандроўкі землякоў і па Навагрудскім ваяводстве, і далёка за яго межы — у Вільню, Варшаву, Кракаў і г. д.

Яшчэ ў самым пачатку 1935 года з’явілася крытычная публікацыя ў газеце “Вячэрні гродзенскі кур’ер”.[6] Аўтар вялікага артыкула “Як яны рэкламуюць Слонім?” схаваўся пад крыптанімам. Але з вялікай доляй верагоднасці можна вызначыць, што гэта быў краязнаўца, супрацоўнік слонімскага староства Віктар Клімкевіч. Яму ў рукі трапіў другі нумар бюлетэня “W Nowogródzkiej stronie” за 1934 год. Якраз яго нам адшукаць не ўдалося. У ім была яшчэ адна частка “Помнікаў Слонімшчыны”. На гэты раз яна прысвячалася Слоніму і бліжэйшым населеным пунктам (Альбярцін, Жыровічы, Сынковічы). Клімкевіча абурылі памылкі, недакладнасці і нават выдумкі ў артыкуле. Напрыклад, пра “*флігель былога палацу Агінскага”*, які нібыта існаваў у горадзе. *“Дзе ён, аўтар?”*, — пытаецца краязнаўца. Сярод

*Працяг на ст. 10*

# Як рэкламавалі Слонімшчыну ў 1930-я гады

*Працяг, пачатак на ст. 9*

архітэктурных помнікаў таксама былі названы гандлёвыя рады. Віктар Клімкевіч абурыўся: *"А гэта што за навіна?.. Урэшце рэшт, гэты… будынак у Слоніме пабудаваны ў 1909 г. І ён мусіць быць аб'ектам, вартым наведвання?".* Краязнаўца не пагадзіўся і з тым, што памяццю пра Сапегаў з'яўляецца толькі гарадскі герб.

*"Словам першакласны прапагандовы артыкул!* — піша Клімкевіч. — *Па прачытанні складаецца ўражанне, што насамрэч мы маем вельмі бедную мінуўшчыну… Недаацэньванне ролі і значэння турыстычнага тымі, хто заклікаНы найперш да зацікаўлення надзвычай багатым у гісторыі Слонімам і паветам, прымушае мясцовае грамадства да самастойнага заняцця гэтай справай… Нямала мусіла б у даным выпадку дадацца працы мясцоваму аддзелу Польскага краязнаўчага таварыства, які ў гэтай галіне ад даўнейшага часу зацікаўлення не выяўляе".*



JAK ROBIĄ SŁONIMOWI REKLAMĘ?

SŁONIM. Wpadł mi do rąk Nr. 2 biuletynu turystyczno-informacyjnego wojewódzkiej komisji turystycznej w Nowogródku, którego zadaniem jest, jakby się spodziewać należało prowadzenie na szeroką skalę zakrojonej propagandy ziemi nowogródzkiej, ściślej obszarów, wchodzących w skład województwa.

Czy jednak biuletyn ten spełnia swoją rolę i w jakiej mierze przekonamy się niebawem, gdy przytoczymy Szanownemu Czytelnikowi dosłowną treść artykułu (popularyzacyjnego!—) o ziemi słonimskiej i m. Słonimie.

Na stronicy 11-ej czytamy:

„Słonim i okolice.

Starożytne miasto Słonim leży przy stacji kolejowej tejże nazwy, po-

Oto tyle co do dziejów Słonima „starożytnego". Pozatem nic. Kilka błędnych informacyj o schroniskach.

Cóż anonimowy autor artykułu tego, zamieszczonego w urzędowym biuletynie pisze o naszym powiecie? Posłuchajmy:

„O 4 klm. na wschód od miasta, położone jest miasteczko (?) Albertyn z pałacem hr. Pusłowskiego, w którym znajdują się zbiory sztuki i portrety królów polskich. Należy również wymienić młyn murowany w stylu barokowym i dworek klasycystyczny, znajdujący się tamże w parku.

Niedaleko Słonima, w 9-ciu bowiem kilometrach, położone jest miasteczko (?) Żyrowice ze słynnym ongiś klasztorem Bazyljanów i cudownym obra-

На жаль, не ведаем, як адрэагаваў Клімкевіч на публікацыі ў навагрудскім выданні 1935 года. Ён і ў наступныя гады арганізоўваў вандроўкі слонімцаў, змяшчаў абвесткі пра іх у мясцовым друку.

У верасні 1938-га пад рэдакцыяй Гжэгажа Энгмана выйшла аднадзёнка "W nowogródzkiej stronie", прысвечаная Адаму Міцкевічу. Пра Слонімшчыну ў газеце амаль нічога няма, але згадваюцца "найстарэйшыя купецкія фірмы" ў ваяводстве. У Слоніме ўладальнікам такой быў К. Гаўляс. Таксама даведваемся, што ў нашым горадзе быў арганізаваны "гадавы купецкі курс".[7] У нумары знайшлася і

## Zabytki Słonimszczyzny

Nad rzeką Szczarą, w południowo-wschodnim zakątku powiatu Słonimskiego, leży miasteczko Byteń, z kilku zabytkami.

Najciekawszym z nich jest kościół po Bazyljański w stylu barokowym, wybudowany w latach 1708-1710 przez Józefa Piątkiewicza, przełożonego ówczesnego klasztoru byteńskiego.

Ciężkie czasy przeżywały Żyrowice w r. 1655 i latach następnych, kiedy były zajęte przez wojsko moskiewskie, które wymordowało prawie całą ludność miasteczka wraz z większą częścią zakonników, wypędzając pozostałych.

Bazyljanie wrócili do Żyrowic dopiero w r. 1660, po zwycięskiej bitwie, odniesionej nad wojskiem



FABRYKA TEKTURY i PAPIERU
„ALBERTYN"
poczta Albertyn, powiat Słonimski
Tel. Słonim—53

wyrabia tekturę warstwową (duplex) zwykłą i szlachetną na pudełka, okładki, skoroszyty i t. p. 11

„Przez spółdzielczość do dobrobytu"
„ROLNIK"
Spółdzielnia rolniczo-handlowa z odp. udz. w SŁONIMIE
Skład narzędzi rolniczych, maszyn, materiałów budowlanych, nawozów sztucznych, nasion, żelaza i galanterii żelaznej.
Skup zboża, pasz treściwych i trzody chlewnej.
Filia w Dereczynie. Telefon 17.
Konto P.K.O. 701.982. Adres: Ułańska 5.
Adres telegraf. Rolnik—Słonim 7

FRANCISZEK MOGIELNICKI
Zakład wyrobów masarskich, hurtowa i detaliczna sprzedaż WĘDLIN i MIĘSA.
Specjalność wędliny suche.
SŁONIM, ul. 3-go Maja Nr. 90
Telefon Nr. 186 9

FELIKS MALKIEWICZ
Zakład wyrobów masarskich, hurtowa i detaliczna sprzedaż wędlin i mięsa.
Specjalność wędliny suche.
SŁONIM, ul. Albertyńska Nr. 48
SKLEP ul. Sienkiewicza Nr. 48. 10

JAN MOGIELNICKI
SŁONIM, Zaułek Zielony Nr. 4
Telefon Nr. 162.

ZAKŁAD WYROBÓW MASARSKICH, HURTOWA i DETALICZNA SPRZEDAŻ
WĘDLIN I MIĘSA.
Specjalność: znane w kraju z dobroci wędliny suche, litewska, salami i t. p. 8

слонімская рэклама.

●СЁ

*[1] Да 1935 года гэта было выданне Ваяводскай турыстычнай камісіі. Калі ў 1935-м яно выходзіла ў друкарні, дык раней — на нейкім памнажальным апараце. Гл.: W Nowogródzkiej stronie, 1935, № 1(3). Студзень-люты. С. 7.*

*[2] Hel. Zabytki Słonimszczyny // Тамсама. С. 6.*

*[3] W Nowogródzkiej stronie, 1935, № 2(4). Сакавік. С. 4-5.*

*[4] W Nowogródzkiej stronie, 1935, № 5(7). Чэрвень. С. 7.*

*[5] W Nowogródzkiej stronie, 1935, № 2(4). Сакавік. С. 6.*

*[6] K-z. Jak robią słonimowi reklamę? // Wieczorny Kurjer Grodzieński, 1935, № 4, 5 студзеня.*

*[7] W Nowogródzkiej stronie C.22.*

# Мастак-вайсковец Бялевіч

У мінулым нумары “СК” была змешчана зацемка пра вайсковы помнік, усталяваны ў Слоніме каля казармаў у ліпені 1936 года.[1] Яго аўтарам быў сяржант 79-га пяхотнага палка Андрэй Бялевіч (у публікацыі мы памылкова назвалі яго Білевічам). У тагачаснай прэсе пра гэтага вайскоўца пісалі як пра мастака.[2] Нарэшце ўдалося знайсці адну з яго карцін. Гэта партрэт Юзафа Пілсудскага. У варшаўскім часопісе “Wiarus” у траўні 1936-га было апублікавана фота з подпісам: *“Змена ганаровай варты навучэнцаў падафіцэрскай школы ў Слоніме ў першыя ўгодкі смерці Маршала Юзафа Пілсудскага перад яго партрэтам, намаляваным сяржантам Бялевічам”*.[3]

●СЁ



*[1] СЁ. Вайсковы помнік у Слоніме // Слонімскі край, 2020, № 13(59). Лістапад-снежань. С. 15-16.*

*[2] Kurjer Nowogródzki, 1936, № 207, 30 ліпеня.*

*[3] Wiarus, 1936, № 21, 23 траўня. С. 516.*

# Стараста Уладзіслаў Геншаль

У 1927-1930 гадах слонімскім старастам (кіраўніком павета) быў Уладзіслаў Геншаль (Władysław Henszel). У снежні 1927-га яго перавялі з такой жа пасады ў Стоўбцах. Геншаль змяніў у Слоніме старасту Яна Дораша.

Уладзіслаў Геншаль нарадзіўся 22 траўня 1880 года ў маёнтку Кавёнкі Курскай губерні (цяпер у складзе Сумскай вобласці Украіны). Яго продкі-шляхцічы былі высланы на чужыну з Лідчыны[1] пасля падаўлення вызваленчага паўстання 1863 года. У 1902-м за палітычную актыўнасць (быў сябрам Польскай сацыялістычнай партыі) Геншаль быў выключаны з Харкаўскага тэхналагічнага інстытута. Ён пайшоў добраахвотнікам у рускую армію, удзельнічаў у вайне з Японіяй, стаў прапаршчыкам. У пасляваенны час была вучоба ў Санкт-Пецярбургу, Уладзіслаў Геншаль атрымаў адукацыю інжынера, па-ранейшаму быў актыўны ў Польскай сацыялістычнай партыі. Працаваў ва Уладзівастоку. У 1914-м прызваны ў рускую армію, падпаручнік Геншаль займаўся вайсковай сувяззю ў штабе Заходняга фронту.



*Уладзіслаў Геншаль / Narodowe Archiwum Cyfrowe*

У канцы 1918 года Уладзіслаў Геншаль дабраўся да Польшчы, працаваў у Кракаве, Варшаве. З красавіка 1919-га — у Міністэрстве ўнутраных спраў, займаўся стварэннем структур бяспекі. У траўні яго прызначылі начальнікам усіх асобных падраздзяленняў муніцыпальнай паліцыі і народнай міліцыі. У ліпені 1919 года была створана дзяржаўная паліцыя Польшчы, яе першым камандзірам прызначылі Геншаля. Ва ўмовах вайны з бальшавікамі ён здолеў стварыць дзеяздольную агульнанацыянальную структуру, сфармаваў некалькі падраздзяленняў, якія ваявалі на фронце. А далей намагаўся змяніць негатыўнае стаўленне да паліцыі, якое сфармавалася ў польскім грамадстве за часы панавання рускай улады.

Вясной 1922 года Уладзіслаў Геншаль *“пасля некалькіх гадоў бездакорнай службы”* нечакана сышоў з пасады. [2] На дзяржаўную службу ён вярнуўся ў 1926-м, на гэты раз не ў сілавыя структуры, а ў грамадзянскую адміністрацыю. У Слоніме старасту Геншаля хвалілі, адзначалі яго энергію, ініцыятыўнасць, *“выдатныя арганізацыйныя здольнасці”.* [3] Калі для рэалізацыі нейкіх важных для Слонімшчыны праектаў не хапала грошай, ён ехаў у Варшаву і “выбіваў” іх (магчыма, з дапамогай старых сувязяў).

Уладзіслаў Геншаль быў актыўны і ў грамадскай дзейнасці. “СК” ужо згадваў, што ў чэрвені 1928 года ён быў адным з ініцыятараў стварэння

слонімскай філіі Польскага краязнаўчага таварыства, быў яе сябрам.[4]

Яшчэ раней з яго ініцыятывы было створана “Таварыства Народнага Дома” ў Слоніме. Дэкларавалася, што ён мусіць стаць “сімвалам згоды” паміж палякамі і беларусамі. У Нардоме побач з польскімі газетамі былі і беларускія.[5]

Магчыма, Геншаль рабіў і іншыя крокі насустрач “лаяльным” беларусам (для большасці беларусаў польская ўлада была чужой, акупацыйнай), бо ў яго сярод мясцовых палякаў-нацыяналістаў з’явіліся ворагі. “Gazeta Warszawska” апублікавала артыкул “Слонімчыка”, які прыдумаў гісторыю пра адкрыццё ў нашым горадзе беларускай гімназіі. Таксама ён сцвярджаў, што стараста адкрывае ў павеце “Народныя дамы” і тым самым *“стварае выключна беларускія асяродкі”*.[6] Нападкі былі на старонках і кансерватыўнага віленскага выдання “Słowo”. У лютым 1930-га 26 супрацоўнікаў слонімскага старства і павятовага аддзела апублікавалі адкрыты ліст у абарону Уладзіслава Геншаля. У ім, між іншым, пералічылі поспехі і заслугі старасты — будаваў і рамантаваў дарогі, масты, займаўся сельскай гаспадаркай, адукацыяй, ахovай здароўя, закончыў рамонт старства.[7]

Відаць, крытыка Геншаля ў прэсе мела для яго наступствы. Міністр унутраных спраў адклікаў яго ў Варшаву, і ў чэрвені 1930 года стараста развітаўся са Слонімам. Яго замяніў Эдмунд Косьлач, які да таго часу займаў падобную пасаду ў Валожыне.

Уладзіслаў Геншаль і далей кіраваў павятовымі старствамі — у Вэйгэрове, Ніску, Вілейцы. Дзіўна, але лёс былога слонімскага старасты пасля пачатку Другой сусветнай вайны застаецца невядомы. Нават польскі Інстытут нацыянальнай памяці яго не высветліў і падае датай смерці пад пытальнікам 1939 год.

●Сяргей Ёрш

**Podziękowanie p. starosty Wł. Henszla**

B. Starosta słonimski p. Władysław Henszel, nadesłał nam następujący list:

Z dalekich zachodnich rubieży Rzeczypospolitej, modrych lasów wejherowskich, przepięknych słonecznych wybrzeży morskich naszego Bałtyku, gdzie ekspansja gospodarcza żywem tętnem bije na świat szeroki, ślę wszystkim swym przyjaciołom Ziemi Nowogródzkiej, współpracownikom w pracy państwowej, samorządowej i społecznej, serdeczne pozdrowienie i podziękowanie za życzenia otrzymane od poszczególnych osób, instytucyj i organizacyj.

Z wielkiem wzruszeniem wspominam serdeczne pożegnanie na dworcu kolejowym przy wyjeździe mcim ze Słonima. Niechże wolno mi będzie tą drogą pożegnać wszystkich tych przyjaciół i znajomych w powiecie, którzy dzielili ze mną znoje prac społecznych i samorządowych, specjalnie zaś tak bliskich sercu memu działaczy oświaty pozaszkolnej, domów ludowych, teatrów żołnierskich i ludowych, kół młodzieży wiejskich, organizacyj wychowania fizycznego i przodowników pracy na niwie spółdzielczej.

Wobec pośpiechu z wyjazdem, nie zdążyłem osobiście podziękować za współpracę w ciągu trzech prawie lat członkom tych organizacyj, którym miałem zaszczyt przewodniczyć: Komitetu Wychowania Fizycznego i Przysposobienia Wojskowego, Ligi Obrony Powietrznej Państwa, Komitetu Białego Krzyża, Komitetu Odbudowy Kościoła Pobernardyńskiego oraz klasztoru Sióstr Niepokalanek, Komitetu Budowy Szkoły Rolniczej w Grzybowie, Związku Okręgowego Straży Pożarnych, oraz tych wielu organizacyj, których byłem członkiem — obecnie tę lukę uzupełniam. Życzę wszystkim przyjaciołom-działaczom dalszego szybkiego zwycięskiego pochodu na żmudnej, ciernistej drodze pracy obywatelskiej ku powiększeniu duchowego i materjalnego dorobku ukochanej Ziemi Nowogródzkiej.

*Władysław Henszel*

Wejherowo—pow. Morski

*Ліст былога старасты, апублікаваны ў навагрудскай газеце*

*[1] Malewski. Rodziny szlacheckie na Litwie w XIX wieku. — Warszawa, 2016. С. 81-82.*

*[2] Generalny Inspektor Władysław Henszel – pierwszy Komendant Główny Policji Państwowej / https://hit.policja.gov.pl/hit/aktualnosci/186859,Generalny-Inspektor-Wladyslaw-Henszel-pierwszy-Komendant-Glowny-Policji-Panstwow.html*

*[3] Życie Nowogródzkie, 1928, № 114, 2 чэрвеня.*

*[4] Ёрш С. Слонімскія краязнаўцы ў 1928 годзе // Слонімскі край, 2020, № 5(51). Красавік. С. 4.*

*[5] Życie Nowogródzkie, 1928, №10, 12 лютага.*

*[6] Życie Nowogródzkie, 1929, № 329, 28 лістапада.*

*[7] Życie Nowogródzkie, 1930, № 49, 27 лютага.*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак у № 6-13, 2020 г.*

VII. ГАСПАДАРЧАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ АЛЯКСАНДРА МІКУЛЬСКАГА

Вёска Літва — фальварак у складзе маёнтка Старыя Жыровічы. У 1880-я гады яе ўладальнікам стаў сын Фларэнціна Мікульскага Аляксандр Мікульскі.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў горадзе Гродна захоўваецца *“Выпіска з Гродзенскага натарыяльнага архіву па Слонімскім павеце за 1886 год, чэрвеня 11 дня”.* Дакумент склаў слонімскі натарыус Платон Аляксандравіч Скабалановіч, які меў офіс (кантору) ва ўласным доме па Паліцэйскай вуліцы (цяпер — Савецкая вуліца, яе ўчастак ад Першамайскай вуліцы да канала Агінскага). Яго запрасілі памешчыкі Іосіф і Ганна Мікульскія з маёнтка Старыя Жыровічы, Аляксандр Мікульскі з маёнтка Літва і Валенсій Мікульскі з маёнтка Ястржэбль Пружанскага павета. Яны дзялілі маёмасць, якая засталася ў спадчыну пасля смерці Фларэнціна Мікульскага. Ганна была яго ўдавой, а Іосіф, Аляксандр і Валенсій — сынамі. З маёмасці засталася зямля па Замкавай вуліцы (цяпер — Камсамольская) ў Слоніме, на якой стаялі дамы, што згарэлі падчас пажару 1881 года, маёнтак Старыя Жыровічы з фальваркамі Прусоўшчына, Вікня, Літва, Андрэева, Міронім і іншае, маёнтак Ястржэбль ці Чарнякова з фальваркам і карчмой. Агулам налічвалася 4556 дзесяцін зямлі на Слонімшчыне і 1665 дзесяцін




на Пружаншчыне. Маёмасць ацанілі на суму 196 290 рублёў.

Іосіф Мікульскі атрымаў 6/7 маёнтка Старыя Жыровічы з фальваркамі Вікня, Прусоўшчына і рознымі пабудовамі, карчмой каля вёскі Залессе, а Ганна Мікульская — 1/7, а таксама зямлю па Замкавай вуліцы ў Слоніме. У дакуменце чытаем:

*“Маёнтак Літва з фальваркам Андрэева і Міронімам, з заводам-вінакурняй пры фальварку Андрэева, карчмой і паштовым домам з прыбудовамі пры фальварку Міронім з усімі належнымі ў гэтым маёнтку дамамі і будынкамі, а таксама Лясная Пушча дастаецца ў выключнае нашчадкавае валоданне Аляксандру Фларэнцінавічу Мікульскаму, які абавязаны засведчыць доўг Віленскаму Земскаму Банку па пазыцы пад заклад гэтага маёнтка ў суме 30 000 руб. срэбрам і заплаціць Валенсу Фларэнцінавічу Мікульскаму выкананне 11 студзеня 1887 года 9000 рублёў. Межы маёнтка: з поўначы — землі вёсак Вербалаты, Залессе, Загорное Залессе, Сценявічы. З усходу і поўдня — зямля вёскі Сценявічы, Міронімскай царквы і Лясной Дачы Графа Патоцкага, з захаду і паўднёвага захаду — зямля вёсак Глоўсевічы, Вяценеўка, Акунінава. Усёй зямлі 3346 дзесяцін”.*

Па “Кнізе земляўладанняў Слонімскага павета” на 5 жніўня 1911 года маёнтак Старыя Жыровічы ўжо лічыўся ўласнасцю Валенсія Мікульскага, а ў маёнтку Літва працягваў гаспадарыць Аляксандр Мікульскі. Умелае вядзенне гаспадаркі дазваляла Аляксандру быць адным з заможных землеўладальнікаў не толькі ў Слонімскім павеце, але і ў Гродзенскай губерні. Выкарыстоўваючы сучасныя тэхналогіі і дарагую тэхніку, памешчык марыў аб развіцці сваёй гаспадаркі. Гаспадарка маёнтка Літва была ўзорнай і перадавой для свайго часу. У фальварку Андрэева размяшчаліся лесапільны завод,

вадзяны млын, вінакуранны завод (захавалася яго апісанне), абсталяванне для якога набывалася ў Германіі. У Літве Мікульскі запусціў завод па вырабе галандскіх сыроў, абсталяваны тэхнікай з Галандыі. Вяршыняй дасканаласці быў гаспадарчы інвентар маёнтка. Са Швейцарыі быў выпісаны вялікі статак высокаўдойных кароў альпійскай пароды.

Сярэднегадавы чысты даход складаў 18870 рублёў (на той час карова "адбракоўка" каштавала 60 рублёў, а пуд (16,3 кг) сыру — 9 рублёў). Даход гаспадарка мела ад продажу лесу, сельскагаспадарчай прадукцыі і здачы зямлі ў арэнду.

Ужо з 1880-х гадоў у маёнтку Літва вяліся назіранні за надвор'ем, мелася свая метэралагічная станцыя. Яе абсталяванне штогод паляпшалася, што давала магчымасць прагназаваць надвор'е не толькі на бліжэйшыя дні, але і на больш аддалёны перыяд. Для экзатычных раслін пабудавалі вялікія цяпліцы і аранжарэі, якія абаграваліся, а ў садзе, які прымыкаў да палаца, выводзілі новыя гатункі яблынь і груш. Магчыма, Аляксандр Мікульскі меў дачыненне і да стварэння Жыровічскай сельскагаспадарчай лясной школы, якая адчыніла свае дзверы ў 1924 годзе.

Развіваючы сельскую гаспадарку і папаўняючы свае капіталы, Мікульскі ніколі не забываў аб сялянах: у маёнтку былі пабудаваны чатыры дамы для пражывання сезонных сялян па найму. З успамінаў Вольгі Філіпаўны Валюкевіч: *"Мая маці… працавала наймічкай ў пані Мікульскай, была галоўнай прачкай. А пральня была вялікая, і працавала ў ёй некалькі прачак. Дзяўчаты мылі не толькі панскую бялізну,*



*Аляксандр Мікульскі*

*але і адзенне парабкаў. Наогул, работнікаў у пані Мікульскай было шмат. На працу прыходзілі і служанкі, і парабкі з розных вёсак, жылі яны ў двух чвараках* [дамах для наёмных работнікаў]. *Сялянам жылося ў маёнтку зусім някепска, асабліва падзарабіць можна было падчас палявых работ, ды і пані была добрая, карміла някепска".*

У гады Вялікай Айчыннай вайны нямецкія акупанты загадалі мясцовым жыхарам гадаваць у маёнтку Літва свойскую жывёлу, рабіць сыр і масла, плаціць грашовыя падаткі. Савецкія партызаны палац знішчылі. У 1944-1947 гады на аснове гаспадаркі былога маёнтка Літва ўтварылі падсобную ваенную гаспадарку, а пасля і саўгас "Слонімскі" (1948-1949) — першы саўгас у Слонімскім раёне.

З успамінаў Мікалая Іванавіча і Яўгеніі Сямёнаўны Філёнчыкаў: *"Калі ствараўся саўгас, мы яшчэ засталі тут некаторыя панскія пабудовы. Заставаўся свіран, вялікі цагляны кароўнік, вялікая малацілка, якую круцілі коньмі, гараж, чваракі. Мы яшчэ ў тых чвараках нават пажылі, пакуль пабудаваліся".*

Жыхары Літвы ўспаміналі, як пасля вайны ўсе аднавяскоўцы цягалі з руінаў палаца цагліны для будоўлі сваіх дамоў.

На базе былога маёнтка Старыя Жыровічы, вылучыўшы 8 гектараў зямлі, у 1946 годзе адкрылі апорны пункт Беларускай плодаагароднінnай даследчай станцыі.

## Палац і парк маёнтка "Літва"

У 1920-я гадых на процілеглым баку вёскі стаяла неагатычная капліца, а побач — вялікі мураваны радавы склеп з вокнамі да самай зямлі. Там у белых мармуровых трунах былі пахаваны прадстаўнікі роду Мікульскіх. У 1939 годзе маёмасць маёнтка была канфіскавана савецкай уладай, яго і капліцу разрабавалі. У палацы зрабілі сельсавет, бальніцу і радзільны дом.

З успамінаў Вольгі Піліпаўны Валюкевіч: *"Да палаца ад сучаснай шашы вяла брукаваная дарога, а дрэвы, якія зараз растуць па яе баках, былі пасаджаны яшчэ Мікульскімі".* На вялікі жаль, сёння маёнтак "Літва" — страчаная сядзіба. Візуальнае ўяўленне аб колішнім палацы дазваляюць скласці нам толькі фотаздымкі з сямейнага альбома ўнука Аляксандра Мікульскага Яна Х'юберта Стэцкага.

## Таямніца Літоўскай зямлі

Сярод мясцовых старажылаў існуе меркаванне, што на тым месцы, дзе быў узарваны палац пана Мікульскага, пад зямлёй засталіся падвальныя памяшканні, у якіх захоўваўся посуд. Пасля вайны мясцовыя жыхары збіраліся іх раскапаць, але так і не зрабілі гэта. І мужчын у вёсцы засталося зусім мала, і было мала веры ў тое, што там засталося нешта каштоўнае.

●Святлана Брайчук

*Працяг на ст. 16*

# З гісторыі ўладальнікаў маёнтка Старыя Жыровічы з канца XV стагоддзя да 1939 года

*Працяг, пачатак на ст. 14-15*



*Палац Мікульскіх у Літве, 1930-я гады. З сямейнага архіву Яна Х'юберта Стэцкага*



*У палацы Мікульскіх у Літве. З сямейнага архіву Яна Х'юберта Стэцкага*

# Рэвалюцыйны год

## *Слонімшчына на старонках газеты “Гродненскія губернскія вѣдомости” ў 1905-м*

*Працяг, пачатак у № 10-12(56-58) за 2020 г.*

Працягваем передрук самых цікавых і важных тэкстаў пра жыццё Слонімшчыны ў 1905 годзе паводле публікацый у газеце *“Гродненскія губернскія вѣдомости”* (у яе “афіцыйнай” і “неафіцыйнай” частках). У гэтай частцы змешчаны дакумент, які рэгламентаваў працу рамізнікаў у нашым горадзе. Ён быў прыняты гарадской думай і зацверджаны ў Гродне ў красавіку 1905-га. Пастанова вельмі падрабязна апісвае правілы працы рамізнікаў. Толькі ў міжваенны час, ужо пад польскай уладай, у іх з’явяцца канкурэнты ў выглядзе аўтамабіляў-таксовак і гарадскога аўтобуса.



*Стаянка рамізнікаў на Параднай вуліцы ў Слоніме*

### Абавязковая пастанова [Слонімскай гарадской думы] аб рамізніцкім занятку ў гор[адзе] Слоніме

1. Рамізніцкі занятак у гор[адзе] Слоніме, які існуе ў 2-х галоўных відах: 1) у легкавым рамізніцтве: а) яздзе ў аднаконным аглобленым экіпажы, б) яздзе ў дышлавых парных экіпажах і 2) ламавым рамізніцтве, — падлягае ўстаноўленым правілам, якія прыводзяцца ніжэй.

### Пра легкавое рамізніцтва

2. Утрымліваць экіпажы і коней для найму, а таксама рамізнікаў маюць права асобы абодвух палоў, але рамізнікамі і фурманамі могуць быць адны толькі мужчыны.

3. Да язды па горадзе, у якасці легкавых рамізнікаў, дапускаюцца асобы мужчынскага полу ва ўзросце ад 18 да 70 гадоў.

4. Жадаючы набыць права на занятак рамізніцтвам павінен атрымаць пасведчанне ад паліцыі пра адсутнасць да таго перашкодаў і пра здавальняючы стан коней, экіпажаў, вупражы і фурманскага адзення.

5. Для атрымання пасведчання, жадаючы займацца рамізніцтвам павінен заявіць пра гэта вусна і пісьмова Слонімскаму Спраўніку і пасля ў прызначаны час прадаставіць: а) інфармацыю пра сваё званне і пра званне фурманаў сваіх (рамізнікаў), б) прызначаных да язды коней і экіпажы, в) збрую і вупраж па колькасці закладак і г) прыналежнасці фурманскага адзення для кожнай закладкі асобна. Пад закладкай разумеецца экіпаж з канём ці два экіпажы: летні і зімовы з адным канём.

6. Пасведчанне, выдадзенае таму, хто займаецца рамізніцтвам, прадастаўляецца ім у гарадское грамадскае кіраванне.

7. Дапушчаны да рамізніцкага занятку атрымлівае з гарадскога кіравання два металічныя знакі, з якіх вялікі знак з таксай добра прымацоўваецца да экіпажу ў пазначаным гарадскім кіраваннем месцы, іншы [знак], меншы, павінен пастаянна знаходзіцца пры рамізніку. Акрамя таго, на спінцы экіпажу павінен быць буйнымі літарамі напісаны белай фарбай на цёмным фоне нумар выдадзенага з кіравання металічнага знаку; велічыня гэтага надпісу павінна быць у 1,5 квадрат. вяршкі [амаль 30 см кв].

*Заўвага: За металічныя знакі, якія выдаюцца з кіравання тым, хто займаецца рамізніцтвам, аплата спаганяецца ў адпаведнасці з коштам замовы.*

8. Атрыманыя з кіравання знакі сапраўдныя толькі на той тэрмін, на які выдадзены. Для аднаўлення знакаў аднаўляецца кожны раз і пасведчанне.

9. Утрымальнікі рамізніцтва самі раздаюць знакі сваім рамізнікам, несучы адказнасць за цвярозыя паводзіны апошніх і за здольнасць, і ўменне іх кіраваць коньмі.

10. Рамізнікі, якія асабіста займаюцца рамізніцтвам і

атрымалі знакі на сваё імя, не маюць права перадаваць іх іншым асобам без ведама паліцыі і дазволу гарадскога кіравання.

11. У выпадку спынення рамізнікам, які атрымаў знакі на сваё імя, занятку рамізніцтвам, ён абавязаны вярнуць у кіраванне атрыманыя пасведчанне і знакі.

12. Утрымальнікі рамізніцтва і рамізнікі абавязаны ўтрымліваць коней, экіпажы, прыналежнасці закладкі і адзенне заўсёды ў спраўнасці.

*Заўвага: ліхтары ў экіпажах павінны быць арганізаваны ўсімі без выключэння рамізнікамі; ліхтар, што знаходзіцца з левага боку экіпажу па накірунку руху, абавязкова павінен запальвацца з надыходам змяркання, ліхтар жа, што знаходзіцца з правага боку, павінен абавязкова запальвацца, калі рамізнік пачне рух з пасажырам.*

13. Рамізнікі павінны не злазіць з казёл [сядзення на перадку экіпажа], не сядаць у свае экіпажы, не спаць і не есці ў іх, а падчас язды не курыць, а таксама абавязаны мець пры сабе персанальную кніжку (без права перадачы яе іншай асобе), выдадзенай яму спраўнікам, без такой кніжкі рамізнік не павінен выязджаць у горад на заробкі. Гэтая кніжка выкарыстоўваецца для запісвання скаргаў пасажырамі і штомесяц прадастаўляецца ў паліцыю для рэвізіі.

14. Падчас язды рамізнікі абавязаны: а) абавязкова трымацца правага боку, б) ездзіць умеранна-хуткай рыссю і асцярожна, асабліва пры выездзе з падворку, на мастах, на рагу вуліцы і завулках, пры паваротах, пры пераездзе з аднаго боку на іншы, і ў месцах, дзе тоўпіцца народ, в) не ездзіць навыперадкі, калі ж узнікне неабходнасць абагнаць тых, хто ціха [марудна] едзе наперадзе, то рабіць гэта ўмеранна-хуткаю рыссю, г) не наязджаць на іншыя экіпажы, д) слухаць папярэджанні, якія робіць паліцыя, а таксама тых, хто праязджае ці праходзіць і, у сваю чаргу, папярэджваць воклікам тых, хто праязджае ці праходзіць; у зімовы час пры яздзе ў санях для большай асцярожнасці мець званочкі на вупражы, е) ад’язджаць ад пад’езду і ўваходаў у гандлёвыя памяшканні і каля прыватных дамоў, на першае патрабаванне дворнікаў, швейцараў, гаспадароў гандлёвых устаноў і фурманаў, пад’язджаючых экіпажаў і ўвогуле ў чаканні пасажыра не стаяць насупраць пад’ездаў, брамаў і выхадаў, а стаяць на некаторай адлегласці, ж) не адыходзіць ад коней, не мардаваць іх і не абыходзіцца з імі жорстка, з) не збірацца па некалькі разам і не звяртацца да мінакоў з прапановай паслуг, к) не стаяць на ходніках і не заходзіць на іх, л) не прывязваць коней да тумбаў, асвятляльных слупоў, парэнчаў і г. д., м) коней карміць не інакш, як з торбаў і н) конь павінен быць абавязкова зацугляны.

15. Незанятыя [працай] рамізнікі павінны стаяць у месцах, пазначаных гарадскім кіраваннем, у пагадненні з паліцыяй. На гэтых месцах рамізнікі павінны так станавіцца, каб заўсёды быў свабодны праход і праезд; акрамя таго, яны павінны станавіцца адзін за адным і займаць адведзеныя на біржы месцы, па часе свайго прыбыцця так, каб рамізнік, які прыехаў раней за іншых, займаў першае месца, з правага боку, той, хто прыехаў за ім, другое [месца], прымыкаючы злева і г. д.; каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў і парушэння грамадскага парадку, рамізнікам строга забараняецца ад’язджаць ад сваіх месцаў на біржы, з мэтай прапановы каму-небудзь паслуг. Па выкліку жадаючага наняць рамізніка павінен пад’язджаць рамізнік, які стаіць першым з правага боку, пасля чаго на яго месца становіцца наступны чарговы рамізнік, на месца ж гэтага апошняга — той, што стаяў трэцім у чарзе і г. д. Калі б чарговы рамізнік, які пад’ехаў і з нейкай прычыны не спадабаўся пасажыру, то апошні можа ўзяць сабе любога рамізніка з тых, што стаяць на біржы, а каб пазбегнуць беспарадку, мусіць сам падысці да абранага ім рамізніка і сесці ў экіпаж.

*Заўвага: там, дзе рамізнікі стаяць адзін за адным, яны павінны выконваць строгі парадак, падаючыся наперад адзін за адным, калі вызваляюцца перад імі месцы.*

16. Каля тэатра, каля чыгуначнай станцыі, увогуле пры ўсялякім значным з’ездзе экіпажаў, рамізнікі абавязаны станавіцца на месцы ў тым парадку, які будзе вызначаны паліцыяй.

17. Рамізнікі не маюць права: а) патрабаваць аплаты вышэйшай, чым вызначана таксай, і ні ў якім выпадку не павінны адмаўляцца ехаць на патрабаванне жадаючых і б) браць у свае экіпажы: адзіночныя — не больш двух дарослых, а парныя — 4 пасажыраў.

*Заўвага: такса павінна быць прыбіта да задняга боку сядзення рамізніка такім чынам, каб была бачная пасажыру.*

18. На патрабаванне паліцыі рамізнікі абавязаны весці бязвыплатна: а) паднятага на вуліцы пацярпелага, хворага ці раптоўна памерлага, б) узятага на вуліцы ў непрытомным стане, в) паліцэйскіх чыноўнікаў, якія пераследуюць экіпаж, які спрабуе з’ехаць, ці ўцякаючага злачынцу і г) паліцэйскіх службоўцаў і службоўцаў пажарнага таварыства, якія едуць на пажар.

*Працяг у наступным нумары*

ХРОНІКА

## Слонімская сінагога прададзена



29 снежня ў Гродне адбыўся чарговы аукцыён, на якім прадалі слонімскую сінагогу, помнік архітэктуры сярэдзіны XVII стагоддзя. Кошт лота складаў 27400 рублёў. Як паведамляе slonves.by, пакупнік — фізічная асоба. Хто менавіта, стане вядома пазней. Цяпер ужо можна дакладна сказаць, што доўгачаканая рэканструкцыя храма пачнецца ў 2020-я гады.

*Фота: sb.by*

## З Новым годам!



*Histmuseum.by*



## Яўген Леашэня

23 снежня споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння Яўгена Леашэні (1900 — 1981), ураджэнца Альбярціна. Ён зрабіў выдатную кар'еру ў савецкіх інжынерных войсках, меў званне генерал-лейтэнанта. Падрыхтаваў некалькі тамоў матэрыялаў па гісторыі Слонімшчыны, якія пакуль не апублікаваныя. Пахаваны на Кунцаўскіх могілках Масквы.

*Фота: facebook.com/E. LeoshenyaProject*

"Слонімскі край" — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com

Спасылка на "СК" пры перадруку абавязковая.